 


# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

№ 32 (911) ГОД XVIII БЕЛАСТОК 12 ЖНІЎНЯ 1973 г. ЦАНА 60 гр.


**ДЫСКУСІЯ НАД КУЛЬТУРАЙ**

# НЕ СЯДЗЕЦЬ СКЛАЎШЫ РУКІ!

РАЗМОВА З НАЧАЛЬНІКАМ МЕЛЬНІЦКАЙ ГМІНЫ — ЯНАМ ЗДУНЕВІЧАМ.

— Старажытны Мельнік пры новым адміністрацыйным падзеле ў грамадскіх і гаспадарчых адносінах пайшоў на павышэнне — стаў цэнтрам даволі абшырнай гміны. Ці ў развіцці культурнага жыцця ён таксама адыгрывае вядучую ролю?

— На жаль, сучасны Мельнік знаходзіцца ў значна горшых умовах, чым, напрыклад, вёска Вілянова Мельніцкай гміны, — сцвярджае Я. Здуневіч. — Там ёсць ладны і добра абсталяваны дом культуры, а мельнічане вымушаны задавольвацца цеснай і непачэснай залай кіно „Гурнік", такой жа святліцай, няма каварні, нават гмінная бібліятэка не мае свайго памяшкання. Самадзейны мастацкі рух, апрача Вілянова, таксама ўсё яшчэ рачкуе, нічога не рабілася і ў справе разбуджэння зацікаўлення і дапамогі народным умельцам у галіне ткацтва, разьбы, керамікі.

— Карціна не вясёлая, гэта праўда, але справы культурнага жыцця гміны напэўна блізкія Вашаму сэрцу?

— Па прафесіі я ж настаўнік! І смешна было б, калі б мяне трэба было пераконваць у вялікай ролі культуры ва ўздыме гаспадарчага і грамадскага ўзроўню жыцця ў гміне. Інтэнсіўнае культурнае жыццё нам патрэбна не менш, чым камасацыя зямлі. А ў верасні гэтага года толькі ў першых чатырох вёсках закончацца камасацыйныя працы, рэшта ж гміны гаспадарыць на адвечнай цераспалосіцы. Дагэтуляшняя адсталасць сельскай гаспадаркі, мізэрны культурны рух і адсутнасць перспектыў на палепшанне гэтага стану і было прычынай таго, што ў мінулым найбольш здольная і амбітная моладзь уцякала адсюль, шукала лепшай будучыні ў вялікіх гарадах або іншых мясцовасцях. А моладзь — гэта ж нашае сёння і заўтра.

(Працяг на стар. 3)

# У дажынкавы вянок

# АД САКОЛЬШЧЫНЫ

**Гаворыць старшыня Прэзідыума ПРН у Саколцы, інж. Ян Зэмбовіч.**

Перш за ўсё нашым падарункам у дажынкавы вянок з'яўляецца паспяховая і поўная рэалізацыя асноўных задач у развіцці сельскай гаспадаркі Сакольскага павету. Асабліва нас цешыць, што ўпершыню ўдалося нам перавысіць узровень ста кілаграмаў хімічна дзейснага рэчыва мінеральных угнаенняў у пераліку на адзін гектар земельных угоддзяў. Нашы земляробы купілі амаль 30 тыс. тон мінеральных угнаенняў. Гэта абумовіла добры ўраджай. Першыя абмалоты паказалі, што ўраджай не павінен быць горшы ад мінулагодняга, калі атрымалі мы ў сярэднім 21 цэнтнер на гектар. Бульба таксама расце выдатна. 200 цэнтнераў з гектара ў мінулым годзе і напэўна столькі ж, а то і больш будзе ў гэтым.

Сельскагаспадарчая служба Сакольскага павету ў гэтым годзе звярнула асаблівую ўвагу на хімічную прапалку пасеваў. Апырсквалі мы гербіцыдамі амаль 13 тыс. гектараў збожжа. Адначасова заахвочвалі сялян, каб замест аўса і часткова жыта сеялі больш ячменю. Чэрвеньскі сельскагаспадарчы перапіс паказаў нам, што сапраўды плошча пад ячменем намнога павялічылася, прыблізна больш чым на тысячу гектараў.

Цяпер у нас адзін толькі клопат, каб тэрмінова, старанна і без страт сабраць збожжа. Здаецца, што зрабілі мы дзеля гэтага ўсё, што толькі маглі зрабіць. Наш ПОМ атрымаў радыётэлефоны і пры іх дапамозе дыспетчар можа ў кожную хвіліну кантактавацца з рамонтнымі брыгадамі незалежна ад таго, дзе яны знаходзяцца. Маем 38 камбайнаў, а ў тым ліку 8 высокапрадукцыйных „Бізонаў". На жаль, дажджлівае надвор'е не дазваляе поўнасцю выкарыстаць сучасную тэхніку і найлепш здае экзамен традыцыйная каса, асабліва на тых палетках, дзе збожжа вылегла, а такіх, на жаль, вельмі многа.

Жніво распачалася на Сакольшчыне ў аўторак, 24 ліпеня. Пачатак далі крушынянскія сельгасгуртокоўцы. Да нядзелі многія сяляне ўжо закончылі ўборку жыта. Першым зрабіў дажынкі Вацлаў Кочук з вёскі Ахрымаўцы ў Кузніцкай гміне. Гэта перадавы і актыўны селянін, між іншым, радны павятовай рады. Мае ўсе ўласныя машыны — з трактарам уключна, ужо скасіў другі пакос сена, выкупіў 50 прац. нормы мінеральных угнаенняў на наступны сельскагаспадарчы год, а цяпер уласнымі машынамі дапамагае ён у працы іншым сялянам.

Менавіта на добры прыклад такіх гаспадароў мы перш за ўсё разлічваем, змагаючыся за развіццё сельскай гаспадаркі Сакольскага павету. У адказ на заклік партыі і ўрада многія з іх абавязаліся павялічыць жывёлагадоўлю. Для прыкладу: Эдмунд Матыс з вёскі Новы Янаў ужо ў гэтым годзе даставіў аж 50 парсюкоў. Ежы Ваверкін з Белавусаў і Яўген Унімка з Мельнікаў абавязаліся адкарміць па 30 свіней, а Эдвард Чарэмха з вёскі Слойка — 40.



*Старшыня Ян Зэмбовіч.*

Свінагадоўля ў Сакольскім павеце павялічылася ў гэтым годзе амаль на 24 прац. Аднachасова наглядаецца паспяховае развіццё гадоўлі кароў. Вось у першай палавіне гэтага года нашы жывёлаводы прадалі дзяржаве амаль 10 млн. літраў малака, гэта значыць на 17 прац. больш, чым у мінулым годзе. Жывёлагадоўлю ўводзім мы таксама ў пла-

Працяг на стар. 4

# ФЭСТЫН У ДУБЯЖЫНЕ

Дубяжынцы пастараліся. А найбольш з іх Алесь Раманюк, старшыня дубяжынскага гуртка БГКТ, які тут налічвае амаль 30 чалавек. Пастараліся і паказалі, што ўмеюць яны выдатна працаваць і весела гуляць.

Ужо ля ўезду ў вёску вітаў нас 15 ліпеня гэтага года транспарант з родным беларускім тэкстам, а далей дубяжынская вуліца ўпрыгожана была нацыянальнымі сцягамі, як на вялікае свята. І сапраўды, гэтая ліпеньская, пераджніўная нядзеля сталася для дубяжынцаў непаўторным святам радасці і працы.

— Чаму гэты фэстын якраз адбываецца ў Дубяжыне? — запытаў я ў начальніка Бельскай гміны мгр інж. Ежы Каліны, калі мы на ўскраіне лясной палянкі чакалі пачатку урачыстасці. Супольна са мною яго паясненні слухалі: прадстаўнік ваяводскіх улад, кіраўнік аддзела культуры Прэзідыума ВРН ў Беластоку Антоні Гжэськевіч, сакратар Галоўнага праўлення БГКТ Ян Зенюк і іншыя госці дубяжынскага фэстына.

— Вёска Дубяжына поўнасцю заслужыла на гэта, — сказаў начальнік. — Гэта адна сярод 48 вёсак Бельскай гміны, але па сваіх прадукцыйных выніках і па грамадскай актыўнасці дубяжынцы заўсёды апераджалі іншых. Двойчы яны былі пераможцамі ў конкурсе „Беластоцкая вёска — гаспадарная і культурная". Калі б мы падлічылі колькасць мінеральных угнаенняў, якімі былі падкормлены дубяжынскія палі, дык выйшла б, што на адзін гектар выпадае тут аж 135 дзейснага рэчыва. Гэта намнога вышэй сярэдняга ўзроўню ў гміне і ва ўсім павеце. Зразумела тады, што і ўраджаі ў дубяжынцаў даволі высокія. У мінулым годзе — 24 цэнтнеры з гектара, у гэтым — яшчэ больш.

Разгаварыўся мгр Ежы Каліна, бо сапраўды ёсць аб чым расказваць. Школа — святліца — вясковы цэнтр здароўя — мост на рэчцы Белай. Усё гэта ўласнаручна, усё як кажуць, грамадскім чынам, але дзеля ўласнай выгоды, каб лепш жылося. Умеюць дубяжынцы паставіць „на сваім". Вось як з гэтым мостам. Рэчка Белая адрэзвала ім даезд да сенажаці. На розных сходах і сустрэчах сяляне ставілі „пытанне аб пабудове мосту". Слухалі гэта прадстаўнікі розных улад, запісвалі ў свае блакноты іх словы, а гаспадары па-даўнейшаму або трацілі час на далёкі аб'езд, або рвалі ўпраж і мучылі коней. Урэшце дабіліся таго, што прыехалі спецыялісты з павятовага ўпраўлення мясцовых дарог і вырашылі, што найперш трэба апрацаваць інжынерскі праект будовы, які будзе каштаваць некалькі дзесяткаў тысяч злотых, затым гэты праект зацвердзіць у камісіі гаспадарчага планавання і патрабаваць, каб для дубяжынскага мосту знайшлося месца ў інвестыцыйных планах. Выслухалі ўсё гэта жыхары вёскі, ветліва падзякавалі і на працягу тыдня пад камандай улас-



*Самадзейнікі з Тапчыкал.*

Працяг на стар. 4

# ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве"





*Жніво. Фота Я. Цялушэцкага*

 

